 

(Працяг са стар. 3)

Цёця Уладзя тады была госцем нашай краіны.

Сустрэча «Нівы» з Вінцэнтым Станкевічам не мела нейкага старога распарадку. Размаўляючы з гэтым чалавекам, цяжка было прытрымлівацца норм інтэрв'ю. Брат Цёці Уладзі аказаўся вельмі непасрэдным, простым. Нашая гутарка хутчэй нагадвала чарговую сустрэчу добрых знаёмых, чымсьці людзей, якія ўпершыню пабачыліся. Успаміны нахлынулі на В. Станкевіча магутнай хваляй. Яны датычылі таксама больш асабістых перажыванняў майго субяседніка, яго несумненна цікавага і поўнага падзеямі жыцця. Вось бачыў ён Элізу Ажэшка ў касцёле ў Кабрыню, дзе аднойчы апынуўся з бацькам. Тады на арганах грала вядомая польская пісьменніца Марыя Радзевічуўна. Незабыўнымі з'яўляюцца для В. Станкевіча гады Кастрычніцкай Рэвалюцыі і першыя цяжкія гады маладой савецкай улады. Яму давялося на Смаленшчыне, у раёне Дэмідава, у 1919—1921 гг., выконваць адказныя абавязкі начальніка ўпраўлення лесанарыхтовак. Праз тэрыторыю, падвергнутую няспыннымі нападзеннямі белых, трэба было сплаўляць лес, які ішоў на экспарт у Англію. Часта становішча так ускладнялася, што жыццё ўсіх знаходзілася ў вялікай небяспецы. Знаёмлюся са старым пажоўклым ужо ад старасці пасведчаннем Дэмідаўскай райлесканторы ад 21 ліпеня 1921 года, у якім прысвойваецца В. Станкевічу званне Героя працы. А вось у часе апошняй вайны знаходзіўся ён у савецкім партызанскім атрадзе Панамарэнкі — аж да 1945 года.

# У ШВАГРА КУПАЛЫ

Проста не верыцца, што адзін чалавек прайшоў такі багаты жыццёвы шлях. Зараз, хаця ўжо і на пенсіі В. Станкевіч, аднак часта прымае ўдзел у розных працах, звязаных са сваёй прафесіяй. Лічыцца ж адным з найлепшых у краіне спецыялістаў у галіне вытворчасці клінкеру, у галіне цагельнай прамысловасці ці вытворчасці высокаякаснай керамікі. Нягледзячы на свой васьмідзесяцігадовы ўзрост В. Станкевіч бадзёры і незвычайна дзейсны чалавек. Не адмовіў мне, калі я запрапанаваў яму выступіць у час майго дакладу ў Люблінскім клубе міжнароднага друку і кніжкі 13 лістапада на вечары, прысвечаным Янку Купалу. Прысутныя з зацікаўленнем слухалі ўспамінаў Вінцэнтага Станкевіча аб паэту. Слухачам было прадстаўлена цікавае здарэнне( якое сведчыла аб папулярнасці творчасці Я. Купалы ў дарэвалюцыйны час. Аддаю ізноў голас В. Станкевічу:

«Вось у 1917 годзе ў ажыдальні I класа на Мінскім вакзале знаходзіліся Янка Купала, мая сястра і я. У гэтай жа самай зале быў царскі генерал Гурка. Калі камендант станцыі падпалкоўнік Мясаедаў звярнуў увагу Купале, што не мае права як падпрапаршчык знаходзіцца ў ажыдальні I класа і хацеў ужо загадаць, каб той пакінуў залу, тады нечакана ўстаў генерал Гурка і, звяртаючыся ў бок Мясаедава, даслоўна сказаў: «Вы, подполковник, не знаете устава о чинопочитании. Я разрешил господину Янку Купале пребывать в этом зале, вы не знаете кто это такой! Это же известный и ценимый белорусский поэт Янка Купала, несравненно более ценный человек, нежели не одна держиморда, хотя бы в мундире подполковника». Пасля генерал Гурка звярнуўся да маёй сястры, якая нас абоіх праводзіла і сказаў: «Мадам, прошу прощения за нетактичный, грубый поступок русского офицера Мясоедова.» Крыху пазней, — працягваў В. Станкевіч, — аказалася, што камендант станцыі Мінск з'яўляецца нямецкім шпіёнам. Ён быў павешаны па загаду таго ж самага генерала Гурка.

Пасля гэтага выступлення В. Станкевіча пачаліся распытванні пра іншыя яго ўспаміны. Зала на заканчэнне ўзнагародзіла швагра Янкі Купалы бурнымі воплескамі.

*

Мая пабыўка ў Любліне набліжалася да канца. Наступіла хвіліна развітання з Вінцэнтым Станкевічам. Сумна было мне пакідаць гэтага сардэчнага, добрага чалавека, які не пашкадаваў сваіх сіл, каб мы разам з Вамі, дарагія чытачы, маглі перагарнуць сёння яшчэ адну багатую падзеямі старонку гісторыі.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# Мілейчыцкая ОСП
## пагарэльцам з Дабрыводы

Мілейчыцкія стражакі не толькі актыўна гасяць пажар. Яны з'яўляюцца застрэльшчыкамі розных грамадскіх чынаў. Вёску Дабрыводу ў Гайнаўскім павеце сустрэла страшная бяда. Згарэла там звыш пяцідзесяці гаспадарскіх гумнаў поўных збожжа, саломы, сена і г.д. Мілейчыцкія стражакі змагаючыся ў Дабрыводзе са стыхіяй, бачылі, якія страты прынёс людзям агонь. Вярнуўшыся дамоў старшыня ОСП у Мілейчыцах мгр Ежы Буякоўскі склікаў сход стражакаў, на якім стаяла адно пытанне: якімі сродкамі дапамагчы пагарэльцам з Дабрыводы? Стражакі вырашылі, што найлепшай дапамогай будзе корм для жывёлы. I стражакі запраглі коні і раз'ехаліся па Мілейчыцах збіраць на пагарэльцаў. Жыхары Мілейчыц адклікнуліся на ініцыятыву стражакаў і ахвотна выносілі на фурманкі сена і салому. Такім чынам стражакі назбіралі каля 2 тон кармоў. Сабралі яны таксама і крыху адзення. Усё гэта неўзабаве было дастаўлена пагарэльцам.

Тэкст і фота **С. КРЭЙЗА**



**Старшыня ОСП у Мілейчыцах мгр Ежы Буяноўскі гутарыць са стражакам Іванам Сурмачом.**



**Мілейчыцкія стражакі ўпакоўваюць сена на самаход.**

# ЧАМУ КАРОВЫ СУМНЫЯ

— Здароў Максіме.

— Здароў Сцяпан. Стой лыса.

— Ты адкуль яе валачэш?

— З Крывой, Сцяпане. А ты куды сваю?

— Я ў Крывую. Стой красуля, вось падла ўстаяць не можа.

— Гарачая яна ў цябе відаць.

— Маладая. Першы раз давесці хачу. Пародзістая яна ў мяне. А ў Крывой, кажуць, на гэтай інсемінацыі, насенне ад самых пародзістых бычкоў. Абы да якой здыхляціны даводзіць не хачу, каб пароды не сапсаваць. А твая чаму такая сумная?

— Завядзеш, Сцяпане ў Крывую на гэтую, як ты кажаш, семінацыю, дык і твая засумуе. Я ўжо сваю лысую пяты раз туды цёгаю і ўсё надарма. Ніяк не можа цяжарнай стацца. Відаць гэтая семінацыя не задавальняе яе. А яна, падла, маткаю хоча быць ды годзе. Малако зусім перастала даваць. Ялавай зрабілася і сохне ўвачавідкі. А была ж сла-а-ўнай кароўкай! I надзяліў жа нас чорт гэтай семінацыяй.

— Так, сапраўды Максіме, справа не вясёлая. Куды ж нам падацца да бліжэйшага бугая?

— Кінь думаць аб гэтым, Сцяпане. Яны ж ва ўсёй аколіцы бычкоў ліквідавалі. Кажуць, навошта яны, калі ў Крывой пункт семінацыйны створаны. А паспрабуй,браток, няхай табе гэты пункт звычайнае цялё створыць, не гаворачы ўжо аб пародзістым.

— Дрэнь справа, Максіме. Але слых ідзе ў народзе, што недзе пад Гайнаўкай ёсць спулдзельня прадукцыйная. Бельшчызнай завецца. Дык там, кажуць, бычка слаўнага, Ваську, маюць. Звер, не бычок! Дык што, Максіме, махнем туды?

— Што ты, Сцяпане. Туды ж вёрст 20 будзе.

— Му-у-у! — працяжна зараўла лыса.

— Бач, падла, быццам чалавечую мову разумее. Эх, Максіме, было не было, давай, пайшлі!

Падслуханая гутарка мо' і не сур'ёзная. Але факт праўдзівы. Ужо трэці год у Крывой існуе пункт інсемінацыі жывёлы. Несумненна, што сельскагаспадарчыя ўлады кіраваліся слушным прынцыпам, арганізуючы гэты пункт. Бо калі развіваць жывёлагадоўлю, дык толькі пародзістую, найлепш прыстасаваную да нашых умоў. I трэба сказаць, што ў шматлікіх мясцовасцях Беласточчыны (а ёсць тут 238 такіх пунктаў), напрыклад, у Алішках — Беластоцкага павета, Крыпне — Манецкага павета, у некаторых вёсках Бельскага, Высокамазавецкага і Алецкага паветаў інсемінацыйныя пункты жывёлы карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Але факт застаецца фактам, што ў Крывой інсемінацыя, як дагэтуль, зусім не здала экзамену. За час існавання гэтага пункта ў Крывой і аколіцы пагалоўе жывёлы рэзка паменшылася. Паменшыліся таксама і надоі малака. Шмат кароў сталася ялавымі. Гэта проста трагедыя для сялян. А калі так, дык гэта трэба адшукаць прычыну такога стану рэчы. Ад гэтага і ёсць у нас спецыялісты па справах інсемінацыі жывёлы. Бычкоў ліквідаваць — простая справа. Але што далей?

**В. Бондар**

рад таварышам.

— Ну, чорт з ім, — згадзіўся бандыт і яны вышлі з памяшкання.

Лёня сядзеў яшчэ доўга моўчкі і толькі дрыжыкі ўстрасалі яго цела́м. Пасля апаў на падушку і заліўся горкімі слязьмі. Рана знайшлі яго

# Й Ц А

суседзі непрытомнага ў гарачцы.

З таго часу Лёня змяніўся. Ён зрабіўся маўклівы, нетаварышскі, засумлівы.

На вёсцы ўсе гаварылі, што гэта работа Сцяпана. Праўда, ніхто яго ў гэту ноч не бачыў у вёсцы і сярод забойцаў яго не было. Але бандыты былі з атрада Сцяпана і ніхто не верыў, што зрабілі гэта без яго загаду, а Сцяпан неаднаразова пагражаў Андрэю.

Але кончыўся добры час для бандаў. Штораз больш аператыўна дзейнічала войска, міліцыя, бяспека. Ім дапамагаў сялянскі актыў.

Рады бандытаў раставалі. Адны з іх гінулі ў барацьбе, іншыя траплялі ў палон і, асуджаныя вайсковымі судамі, сядзелі па турмах. Многія злажылі аружжа пасля аб'яўлення амнестыі.

Пра Сцяпана загінуў усякі слых. Адны гаварылі, што ён забіты, другія, што схаваўся на Заходніх землях.

Прашло 12 год. Час заціраў у памяці Лёні цяжкае перажыццё той страшнай ночы. Людзі забываліся пра вайну і змаганні з бандамі. У гэты час у вёсцы з'явіўся Сцяпан. Вярнуўся з жонкай і дзяцьмі на гаспадарку, да старых бацькоў.

У Лёні адчынілася загаслая рана. Забойца яго бацькі сядзеў у суседнім доме. Яго штодзень можна было бачыць праз акно, як крутаўся па падворку. Спакойна прасядзеў на захадзе найгоршы час, цяпер як ні ў чым не бывала жыве на сваёй гаспадарцы.

Лёня сціскаў кулакі і гатоў быў кінуцца на Сцяпана і рваць яго на кускі. Але паспрабуй помсціцца, у турму пойдзеш, трое дзяцей без хлеба астанецца. А мо' пайсці данесці на пастарунак МО' і што з гэтага? Чым дакажаш? Дзе знойдзеш сведкаў? Не меў ніякіх доказаў. Чуў ад людзей. А мала чаго людзі нагаварыць могуць.

Не, нічога не зробіш. Трэба пагадзіцца з тым, што Сцяпан астанецца без кары.

Час праходзіў і супакойваў узбураныя пачуцці Лёні. Сцяпан нават са свайго боку прабаваў здабыць давер Лёні. Загаварваў да яго ветліва, дапамогу ў гаспадарцы абяцаў. Лёня глядзеў з-пад ілба і адказваў буркліва.

Сцяпан не змог усядзець ціха. Разам з шваграм Вярбіцкім ён пачаў гнаць самагон. Доўга гэта ўдавалася. Але нехта данёс міліцыі. Міліцыя знайшла апарат і гарэлку. Швагра адсудзілі на паўгода ў турме, заплацілі па пяць тысяч злотых штрафу, а сколькі суды і адвакат каштаваў, злічыць цяжка.

— Як ты думаеш? — звярнуўся Сцяпан да Вярбіцкага, — хто мог на нас данесці?

— А хто ж, калі не Мялешка, — адказаў Вярбіцкі. — Па бацьку пайшоў, уладам выслугоўваецца.

Сцяпан і сам меў падазрэнне на Лёню. Ён жа найбліжэйшы сусед, а пры гэтым ваўком глядзіць на Сцяпана.

— Трэба яму адмясіць добра бакі, ды загадаць, каб звярнуў нам кошты справы, — запрапанаваў Сцяпан.

— Добра раіш, — абрадаваўся Вярбіцкі. Хай я яго дзе самога спаткаю!

Сцяпану гэтага толькі было і трэба. Сам ён не рашаўся напасці на Лёню. Мо' глыбока ўтоенае пачуццё віны паралізавала яго волю і паўстрымоўвала ад дзеяння.

Незадоўга Лёню адвязлі ў бальніцу. Вярбіцкі падышоў да Лёні, калі той араў сам, далёка ад вёскі.

— Даносамі займаешся, суседзяў прадаеш. Зямлю будзеш грызці як бацька, калі не звернеш мне і Сцяпану коштаў і страт, — і ён ударыў Лёню ў зубы трыманым кіем так, што той без памяці зваліўся на зямлю.

Пасля двух тыдняў Лёня выйшаў з бальніцы. Справа супраць Вярбіцкага была спынена.

— Можаш падаць у суд, — параілі яму. А паспрабуй судзіцца без сведкаў. Коштаў без ліку, а ладу ніякага.

Вярбіцкі астаўся пераможцам.

Пры кожнай аказіі ён пагражаў Лёні, патрабуючы заплаты для сябе і Сцяпана. Сцяпан маўчаў, але па-воўчаму позірку можна было дагадацца, што ведае аб пагрозах Вярбіцкага і думае тое самае...

Лёня жыў пад страхам. Вечарам баяўся выйсці на двор. Яму здавалася, што за кожным кутом яго падпільноўвае Вярбіцкі або Сцяпан і яму прыпамінаўся абліты крывёй бацька. Спаў неспакойна, а часамі зрываўся з кры-

(Працяг на стар. 7)



 




### ХАЦЕЎ ПАСПЕЦЬ

Шафёра, які пацярпеў аварыю, спыталі:

— Чаму вы так хутка ехалі, вы ж ведалі, што тармазы сапсаваны?

— Хацеў яшчэ да катастрофы ў гараж паспець, — адказаў той.

Прыслаў **Я. Ц.**

### У ВАРОЖКІ

— Ці вы хацелі б ведаць будучыню вашага будучага мужа?

— Не. Скажыце ўжо лепш аб мінулым майго цяперашняга мужа.

### ГУЛЬНІ ДЗЯЦЕЙ

Адна грамадзянка ўбачыла малога хлопчыка, які сядзеў адзінока пад дрэвам у той час, калі іншыя дзеці гулялі разам у агародчыку.

Падышла яна тады да яго і пытае:

— Чаму сядзіш ты тут сам і не гуляеш з іншымі дзяцьмі?

— Я з імі гуляю. Мы гуляем у бацькоў і дзяцей і я яшчэ не нарадзіўся.

### ІДЭАЛЬНАЯ ЖОНКА

— Мая жонка такая працавітая і так любіць парадак, што я не магу ўжо больш гэтага вытрымаць.

— Чалавеча, гэта ж цудоўныя якасці.

— Так, але, уяві сабе, як устаю ноччу, каб напіцца вады, то калі вяртаюся за хвіліну, ложак ужо пасцелены.

### МАЦІ І ДАЧКА

Дачка да маці:

— Мама, ці магу адзець твой новы світар?

— Зразумела. Але што табе сталася, што ты пытаеш дазволу?

— Бо не магу яго знайсці...

### ЗАБЫЎСЯ

**— Вось тут кроплі, парашкі... Ну і, зразумела, спорт-штанга, рэгбі, бокс.**





### ФІЛОСАФ

Гутарыць двое малышоў:

— Кім хочаш быць, калі вырасцеш?

— Я? Салдатам.

— Э, пойдзеш на вайну і працўнік заб'е цябе.

— Дурны! Гэта якраз я буду працўнікам...

## КУР'ЁЗЫ

### ТВІСТ ДЛЯ СТАГЭНЬКІХ БАБУЛЬ

Сярод удзельнікаў марафону твісту, што адбываецца ў Харлоў Нью Таун у графстве Эсекс (Англія), знаходзяцца дзве 70-гадовыя жанчыны. Для іх умовы марафону некалькі палегчаны: пасля кожных пяці пласцінак можна на мінуту прысесці, каб адпачыць. Апроч таго, яны знаходзяцца пад пастаянным наглядам урача.

«Ліберасьён»




**— Шчыра гаворачы, мне зусім не патрэбны туфлі. Я хацела толькі зноў убачыць перад сабой мужчыну на каленях.**

### БОЛЕЙ НІЧОГА НЕ ТРЭБА

«Факт знаходжання на ўтрыманні пацвярджаецца фатаграфіяй, на якой сфатаграфаваны Лесніцкі з Чыкулінай і дзіцём. Выраз твару на фатаграфіі сведчыць аб узаемаадносінах бацькоў».

(З рашэння суда)

# ФОКУСНІКІ

— Сачыце за маімі рукамі, грамадзяне кемлівыя! — звяртнуўся Кастусь да сабраўшыхся. — Прадэманструю вам розныя фокусы, у якіх нікага махлярства не будзе. Як бачыце, у маёй руцэ нічога няма. Накрываю руку хустачкай...

— Хлусня! — выкрыкнуў Ігнат. — Я і такі самы майстар. Рука пустая! — і Ігнат, растапырыўшы пальцы, паказаў прысутным далонь. Потым ён сарваў з шыі шалік, накрыў ім руку і, падышоўшы да найбліжэйшага гледача, папрасіў: — Калі ласка, прыпадніміце заслону. Лопнуць мне на гэтым месцы, калі не здзівіцеся!

Крыху збянтэжаны глядач сцягнуў каляровую тканіну і ўбачыў вялікую фігу з жалобным пазногцем.

Рокат смеху ўдарыў у столь і адкаціўся за кулісы вясковай сцэны, а пакрыўджаны Кастусь сказаў:

— У пустой галаве дурныя выдумкі!

Затым ён накрыў сваю руку хустачкай і папрасіў таго ж гледача зняць пакрывала.

— Ідзі прэч! — абурыўся той. — Я прыйшоў не фігі глядзець!

Тады Кастусь сам, схапіўшы за ражок, сарваў хустачку і прысутныя ўбачылі голуба.

Кастусь эфектна падкінуў птушку і яна, залапатаўшы крыламі, уселася на плячы Кастуся.

— Вось гэта штука! — выкрыкнуў чыйсьці ўсхваляваны ад захаплення голас.

Не звяртаючы ўвагі на вокрык, Кастусь зноў узяў голуба, накрыў хустачкай і, падышоўшы да Ігната, сказаў:

— Знімай у парадку суседскай дапамогі.

Перад здзіўленым Ігнатам рука Кастуся аказалася пустой, але Кастусь залез у кішэню Ігната і выцягнуў адтуль голуба.

— Ты з кожнай птушкай так робіш? — спытаў чыйсьці голас.

— Мне птушка — дробязь, мастацтва тут галоўнае! — горда адказаў Кастусь.

— Дам на паўлітра, выцягні мне індзюка! — звярнуўся той самы голас. — Страшна люблю іх смажаных!

— Калі хто любіць бараніну, гэта не значыць, каб я ім цягнуў авечку, — пакрыўдзіўся Кастусь і перайшоў да наступнай тэмы: — У руцэ нічога няма, а зараз будзе цыгарка...

— Ад-ста-віць! — зароў бас. — Цыгарак хапае!

З натоўпу выплыў дзед Макар і, стаўшы побач Кастуся, сказаў:

— Людзі мілыя, на нашых вачах талент марнуецца. Не ў святліцы павінен дзейнічаць Кастусь, а ў гэсэ, тады будзем мець і лімонную кіслату і жэляцін і спіральныя папарок.

— Не згаджаюся! — загрымеў бас. — У Кастуся ўсё з'яўляецца, а потым гіне. Такіх фокуснікаў у гэсэ хапае.

— Грамадзяне гледачы, я вам паказваю чыстае мастацтва, а вы пераносіце яго на дробязі жыцця! — узмаліўся Кастусь.

— Ты нам вачэй не замыльвай! — закрычаў упарты бас. — Без цябе паказваюць нам, чаго нельга дастаць у магазінах.

Кастусь бездапаможна апусціў рукі і... з рукавоў пінжака пасыпаліся цыгаркі, каляровыя хустачкі і іншая дробязь.

Пакуль Кастусь збіраў свае рэквізіты, гледачы натоўпам хлынулі да выйсця.

Сёння кожны фокуснічае чым можа і чужымі фокусамі не цікавіцца.

Дзядзька Лявон




Іван МУРАВЕЙКА

## Хто зарабіў двойку

Прынёс са школы двойку Гоша
І тату ўзяўся прабіраць:
— Эх, як не сорамна!
Не можаш
Задачак просценькіх рашаць!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі Амільянюк з Грэдэляў, Бельскага павета, і Ніны Буры з Масева І, Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню.

## Расцветай, Сибирь!

Слова Э. Иодковского    Музыка В. Мурадели



Веет свежестью
Ночь сибирская,
Собрались друзья у костра...
Ты навеки нам
Стала близкою, 2 разы
Величавая Ангара.

Дом родимый свой
У Москвы-реки
Мы оставили навсегда,
Чтобы здесь, в тайге,
Встали фабрики, 2 разы
Встали новые города.

Все мне дорого,
В новом городе,
Где увидел взгляд милых глаз.
Возмужала здесь
Наша молодость, 2 разы
Здесь любовь у нас родилась.

Не пугает нас
Непогодина,
Не замерзнем мы за рулём.
Расцветай, Сибирь,
Наша родина, 2 разы
Та, что матерью мы зовем!

Нас не сбить с пути
Тропам кряжистым,
Мы пройдем любой перевал.
Даль сибирскую
Краем нашенским 2 разы
Наш родной Ильич называл.

Нет, с Сибирью мы
Не расстанемся,
Вера юности горяча.
В золотых огнях
Гидростанции 2 разы
Пусть живёт мечта Ильича!